Цана асобнага нумару 10 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 12 (63). Вільня, Субота 5 Лютага 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Культурна-гаспадарчая праца.

Беларускі рух, дзякаваць афярнасьці і ідэйнасьці лепшых сыноў Беларускага Народу і абставінам яго жыцьця, знаходзіцца ўжо на так высокім роўні свайго ўсебаковага развіцьця, што няма амальшто ні аднае галіны, дзе-б не выяўлялася сьвядомая беларуская праца. Змаганьне за лепшую долю нашага сярмяжнага народу ідзець ужо сьмелым і рашучым крокам уперад, здабываючы штораз то новыя нажыцьці. Праўда, у гэтым змаганьні, разам з дабычамі, на полі барацьбы астаюцца раненыя Беларусы, якія падаюць афярамі за тую ці іншую ідэю, аднак гэтыя афяры яшчэ больш умацоўвуюць беларускія пазыцыі, бо на іх месца прыходзяць новыя, маладыя сілы. Поруч з гэтымі новымі сіламі Беларусы пачынаюць весьці працу ўва ўсіх галінах грамадзкага жыцьця.

Пачаткі беларускай адраджэнскай працы характэрызуюцца культурнай працай у форме пісьменства і друкаванага слова. Культурная праца заваёўвае штораз больш прыхільнікаў і разам з ёй пачынаецца сьвядомая праца. У апошнія часы зьяўляемся сьведкамі вялізарнага разросту палітычнага беларускага руху. Уся нашая вёска выразна выявіла сябе, што толькі пад беларускім сьцягам можа яна шукаць вызваленьня с тае палітычнае, сацыяльнае і культуральнае няволі, у якой цяпер знаходзіцца. Але гэтае выяўленьне волі беларускага сялянства яшчэ не дае гарантыі, што нашая вёска ўжо зьяўляецца зусім палітычна дасьпелай, што патрапіць яна заўсёды справядліва і згодна з яе мэтамі ацаніць усе праявы грамадзкага жыцьця. Мы ведаем добра, што ў сувязі з разростам беларускага руху, пад гэты рух падшываюцца няпрошаныя апякуны, якія ці дэмагогіяй, ці баламутнымі дакляраваньнямі, ці проста падкупам за грошы з дэфэнзывы ўцягваюць да сябе найменш сьвядомыя элемэнты, або сабе роўныя. Мала гэтага, здольнасьць такіх тыпаў, што служаць залатому цяльцу, ці іншым няпрыстойным мэтам, так далёка пасоўваецца, што некаторыя на'т сьвядомыя і важнейшыя беларускія дзеячы папалі пад іх уплывы. Дый сапраўды, кожнаму шчыраму і сьвядомаму Беларусу ўжо трудна разабраць, што ў беларускім руху робіцца, хто зьяўляецца здраднікам, а хто запраўды ідэйна працуець на беларускай адраджэнскай ніве; дык што-ж казаць аб звычайным нашым селяніне!? Яму яшчэ больш цяжка і часам немагчыма зразумець сапраўдных яго змагароў, разабраць якая беларуская партыя найбольш адказвае сялянскай ідэалёгіі, і заняла запраўдны шлях, які вядзе да зьдзейсьненьня ўсіх мэтаў беларускага сялянства.

Дык вось, каб найменш блудзіць, каб была большая гарантыя, што нашая вёска зьяўляецца зусім палітычна і грамадзка дасьпелай, сярод беларускага сялянства павінны якнайшырэй павясьці працу беларускія культурныя інстытуцыі. Разам з культурна-асьветнай і ўзгадаваўчай працай павінна ісьці культурна-гаспадарчая праца. Як адну так і другую запачаткаваў Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры. Нармальнае разьвіцьцё гэтае ўстановы сьведчаць аб тым, што больш сьвядомыя і культурныя працоўнікі на вёсцы зразумелі, што не даб'емся мы ўсіх сваіх правоў бяз працы на культурна-гаспадарчай ніве.

Сабраньне дэлегатаў Віленскага Аддзелу Інстытуу, якое адбудзецца 6-га лютага с. г. будзе доказам таго, што культурна-гаспадарчая праца на вёсцы, якую пачаў Інстытут мае прад сабой вялікую і ўдзячную будучыню. Вітаючы адначасна гэтае сабраньне і дэлегатаў Гуртkoў Віленскага Аддзелу Інстытуту, жадаю далейшай карыснай працы на гэтай ніве, каб праз зьдзейсьненьне мэтаў і ідэалаў Інстытуту дайсьці да агульна чалавечых ідэалаў роўнасьці і брацтва.

*А. Більдзюкевіч.*

## Аб арыштах у Заходняй Беларусі.

### Паседжаньне рэгуляміновай Камісыі Сойму ў справе выдачы паслоў.

У чацьвер 3-га лютага адбылося паседжаньне рэгуляміновай камісіі ў справе выдачы паслоў. На паседжаньне прыйшлі міністры: справядлівасьці Мэйштовіч і ўнутраных справаў Складоўскі.

На прапазыцыю прадстаўніка ўраду павадыр камісіі заявіў, што абрады будуць тайныя. Проці гэтае заявы выступіў пасол *Ярэміч*, даводзячы што распараджэньне тайнасьці на папярэдніх паседжаньнях камісіі ня мела ніякай мэты і затым няма патрэбы ізноў рабіць тайнае паседжаньне.

Проці гэтага выступіў урад і затым паседжаньне было тайнае.

Наступнае паседжаньне мелася адбыцца ў пятніцу.

### Маршалкоўскі Суд у справе Ваявудзкага.

Маршалкоўскі Суд прыступіў ужо да разгляду справы Ваявудзкага. Перад паседжаньнем суду пас. Ваявудзкі падаў на імя маршалка ліст, у якім ён выказвае нязгоду на тое, каб пас. Дашынскі і Панятоўскі былі судзьдзямі, бо яны належаць да партыяў, якія змагаюцца з „Niez. Part. Chł.“ Далей пас. Ваявудзкі хоча, каб паседжаньні маршалкоўскага суду адбываліся ў яго прысутнасьці, былі яўнымі і аб'ектыўнымі і каб з паседжаньняў былі сьпісваны стэнаграмы, якія можна было-б абвяшчаць у прэсе.

Маршалкоўскі суд згодзіўся толькі на тое, каб з паседжаньняў былі сьпісваны стэнаграмы, але не для публічнага ведама, а толькі для судзьдзяў.

Суд ужо выслухаў, як сьведкаў рэдактара „Kur. Wil.“ гр. Сьвяневіча і кап. Сухэнка.

У сувязі з зацемкамі ў польскіх газэтах, што пас. Ваявудзкі, атрымліваныя ім грошы з дэфэнзывы, аддаваў прэзыдыуму „Вызваленьня“, клюб „Вызваленьне“ просіць маршалка, каб суд выслухаў прэзыдыум гэтае партыі.

З усяго гэтага можна зрабіць вельмі цікаўныя вывады. Калі маршалкоўскі суд баіцца яўнасьці разгляду справы, дык апрача пас. Ваявудзкага, відаць, у правакатарскай працы замяшана больш асоб.

Гэтая яўнасьць найбольш нявыгадна дэфэнзыве, бо можа яна выкрыць прозьвішчы ўсіх асоб, што займаліся і займаюцца даносамі на беларускіх паслоў, і наагул на Беларусоў і беларускі рух. Справа Ваявудзкага вельмі кампрамітуюча характэрызуе польскі ўрад, які замест палітычных, культуральных і сацыяльных рэформаў на карысьць Беларусаў, выасыгноўваў грашовыя сумы на шпіонскую работу і ствараў грунт для работы правакатараў, якія працуючы ў дэфэнзыве падшываліся і дагэтуль падшываюцца пад беларускі рух. Мала было правакатарскай і шпіонскай працы Ваявудзкага і яго кумпаноў Палякоў і Беларусаў яшчэ Паўлюкевіча. Паўлюкевіч, пад беларускай вывескай вядзе тую самую дэфэнзыўную работу, што вялі іншыя платныя агенты.

### Нямецкая прэса аб арыштах.

Соцыялістычная газэта „Neue Folkszeitug“ у дні 28 ап. студня зьмяшчае стацьцю пад назовам „Няскончанае праступства“, у якім востра нападае на урад за беларускіх паслоў. Аўтар піша, што ў Польшчы ня можна аслабаніцца ад паліцэйскіх прынцыпаў, якія суляць турму людзям інакш думаючым, асабліва калі яны належаць да работніцкай клясы. Як-жа ня можна мець прэтэнзыяў да міністра, якому даверэна апека над справядлівасьцяй, калі ён ловіць паслоў на „горачай справе“ і тады, як яны дояць кароў. Пакуль Польшча не перастане быць паліцэйскай дзяржавай, пакуль ня будуць залегалізаваны тыя палітычныя партыі якія асьмеліваюцца мець асобныя думкі аб характары польскай дзяржавы (манархістыя і фашысты ўжо даўно ў нас залегалізаваны), датуль нашыя ворганы справядлівасьці будуць мець работы з „непакончанымі праступствамі“, якіх будуць прасьледаваць але ніколі ня зловяць нават калі-б усе дамы былі перароблены на турмы, а ўсе ўрадоўцы ў стражнікаў.

## СЯЛЯНЕ!

Аб усіх крыўдах, аб зьдзеках адміністрацыі і аб вашым жыцьці пішыце ў сваю газэту „Сялянскую Ніву“.

# Маленькі фэльетон.

## ТОЛЕРАНЦЫЯ.

*Ко всему привыкает человек подлец.*
Ф. Достоевский.

Адным з нядаўных вечароў я сядзеў у сваёй нарэ і думаў:

Што напісаць?

А пісаць-жа цяпер трэба так, каб не зрабіць няпрыемнасьці для Рэдакцыі. Каб газэта за гэтую маю пісульку не папала ў канфіскацыю.

Бо кругом шумяць, што пачалося прасьледаваньне Беларускага Руху.

Ня ведаў толькі я, што ёсьць Беларусы і „бѣлоруссы“.

Нават тут у Польшчы.

Адны трапляюць пад урадовыя рэпрэсіі, другіх... толеруецца.

Дый як яшчэ!

Хто ведае? можа ім нябошчык „Ѣ“ (ять) памагае? а можа і два эсы, якія аздабляюць іхняе імя?

Здарэньне памагло мне даведацца аб пэўнай польскай толеранцыі для „бѣлоруссов“.

Забягае тады гэта ўвечары да мяне стары прыяцель.

— Чорт ведае што такое! — крычыць. — Выбачай, што позна заходжу,—(гадзіна дзесятая была),—але-ж сядзіцё вы ўсе тут у Вільні, важныя бо тыя эндэкі польскія, і маўчыцё аб гэткай ганьбе...

— Дзе, якой ганьбе? сядай,—перапыніў я яго злосьць.—Што ганьба?... „Грамада“ разьляцелася?...

— Якое там чорта „Грамада“! Трэба крычэць, трэба апэляваць. Гэта-ж на публічную пагарду электрычнымі лямпачкамі высьвятляецца імя беларускае!

— Што ты, якімі лямпачкамі?—ізноў перабіў я свайго прыяцеля,—што ты крычыш, як казак да запарожцаў з другога берагу Дняпра? Я-ж ня глухі яшчэ! Дзе ты жывеш цяпер? Скуль прыехаў?

— З Ашмяны...—коратка адказаў ён крыху спакайней, а далей сваім ранейшым паднятым тонам рашуча запрапанаваў, схапіўшы мяне пад паху:

— Ды што там казаць? Апранайся! Хадзем—пакажу! Бо, як бачу, вы ўсе тут пасьлеплі, ці на шыльды ўвагі ніякае не зьвяртаеце.

— „Якія шыльды?“—думаў я, апранаючыся і выходзячы з таварышам на вуліцу.

Той зашчаміў моцна зубы і маўчаў.

— Ну, вядзі! пабачым, што такое,—сказаў я яму.

І павёў ён мяне па знаёмых віленскіх вуліцах. Перацялі Міцкевічаву вуліцу і апыніліся на Віленскай каля кіна „Гэліос“.

— Ды што ты,—кажу я таварышу,—што ты? Кіна гэтага я ня бачыў, або шыльду яго? Здурэў ты ў сваёй Ашмяне седзячы, ці што?...

— Якое табе кіна?—закрычэў ён, паказваючы пальцам удоўж Віленскай вуліцы:

— Глядзі!

Я і тут яшчэ нічога не цяміў.

— А пабач з кінам што?—крыкліва пытаецца таварыш.

— Тут калісь шынок быў,—адказваю,— „Варшавянкай“ зваўся; збанкрутаваў даўно...

— Усе вы тут банкруты, дзеячы, паэты, літэратары!—расхадзіўся мой прыяцель,—скулы на носе сваім абмацаць ня можаце! А гэта што?—тыкнуў ён у паветра пальцам ледзь не пад самымі нашымі галовамі.

— Гэ-э-та-а!—разявіў я рот ад зьдзіўленьня.

Над намі зіхацела шкляная скрыначка, багата асьветленая з сярэдзіны электрычнасьцяй, а на скрынцы відаць было надпіс:

„Białoruska Chatka w Wilnie. Gra świetlano-kolorowa“.

І толькі...

Зрабіўшы некалькі шагоў уперад, мы спыніліся з другога боку скрыначкі.

Ізноў той самы надпіс.

А з сярэдзіны быўшае „Варшавянкі“ даляцела да маіх вушэй:

„Zielone. Dwadzieścia pięć!“

— Ну, і што-ж?—зьвярнуўся я да таварыша,—што-ж тут дзіўнага бачыш?

— Што! што!—загаласіў той, падняўшы пад галавою зашчэмленыя кулакі.

— Балваны вы ўсе, вось што!!

— Ды ня лайся ты,—супакойваў я, як умеў таварыша.—Каго ты лаеш? Ня крычы, як фэльдфэбэль царскі.

— Калі-ж не магу!—адгукнуў на гэта мой таварыш, шалеючы ад злосьці...

Я толькі паглядаў, астаўбянеўшы, як ён перабег праз вуліцу, зайшоў напроці кіна ў падворак, дзе некалі рэдакцыя „Гоману“ была і мігам стуль вярнуўся, нясучы ў руцы здаравенны камень.

— Што гэта ты, біцца!—зьдзівіўся я дарэшты.

— Ня біцца, а шыльд вось гэты разьбіць, каб не паганіў нашага імя.

Ён размахнуўся ўжо, але я стрымаў яго за руку, прыпамінаючы:

— Кінь, браце! тут-жа клюб... Паліцыянт глядзіць. Умяшацца можа.

— Няхай глядзіць,—крычыць яшчэ мацней мой ашмянскі ваяка,—хай арыштоўвае, хай сабе ўмешваецца. А гэта—скандал!... Чаму ён тут не мяшаецца, калі публічна бэсьціцца беларускае імя, выстаўленае на паказку, на вуліцу: Пабачце людзі, што мы ўмеем!... Да чаго мы дажылі, браце, няўжо-ж мы маем права азартам займацца, публічна аб гэтым шыльдамі „беларускімі“ сьвяціць, калі ў народзе нашым гэтулькі галіты і цемры. Што вёска скажа?...

— Якое вёсцы дзела да гэтага?—лагодненька сказаў я таварышу, калі яму абрыдла, відаць, тое, што я трымаў яго руку, даючы гэтым зразумець, што камень у ёй ён трымае дарэмна. Ня шыльду мне было шкада на „Białoruskiej Chatce“, а таварыша шкада. Гэткі мілы і спакойны заўсёды быў чалавек. А патрыёт гарачы.

— Тут, бачыш, нейкі *Белавінцев, Андріанов і Павлюкевіч* адчынілі сабе лёто,—тлумачыў я далей.—Ну і чорт іх пабірай! Што нам да гэтага?...

— Як-то што?—пачуўся востры адказ.— А на якога-ж чорта гэтыя маскалі пад Беларусаў пашыліся? Пратэставаць трэба, лабы вашыя мядзяныя!... Я так і думаў,—працягнуў мой калега спакайней,—ці-ж Беларусы нашы да гэткай гадасьці дайшлі, каб гульнёю ў лёто перад вуліцай хваліцца. І нават, ведаеш, зайшоў туды, кіруючыся па старай памяці ў „Варшавянку“, паглядзець хацеў, хто-ж гэта рызыкант такі. Аж там, браце, ад маскоўскае гутаркі аж вуха вяне. Бегае нейкі там командзер, відаць, галоўны ды ўсё:

— Понимаете, понимаете! понимаете-ли...

І калега мой шнургануў камень у рыншток.

— Што-ж парадзіш!—сказаў я таварышу,— толеранцыя, бачыш; з вялікае палітыкі да гэтага Павлюкевіч дайшоў, а кампаны яго, дык проста публіка грашавітая, выгадна капітал свой прыстроіць пастараліся.

— Толеранцыя, кажаш? А чаму на людзкія рэчы толеранцыі няма? Я вось ажаніўся, як ведаеш, у Ашмяне, з пасагам маленечнім жонку сабе ўзяў; адчыніў на яе імя краму дый гандлюю пакрысе. Дык ведаеш, кожны дастае патэнт на табачны гандаль, а жонцы маёй не даюць, школаў нашаму мужыку не даюць, а ты тут кажаш—толеранцыя! Мяне вун праз усю ноч трасьлі. Што ты плявузгаеш — то-ле-ран-цыя?!! Хадзем лепш павячэраем дзе, там пагаворым,—закончыў мой калега свае бясканечныя разважаньні.

Я ўцешыўся з яго прапазыцыі, як некалі Народ Божы з нябеснае манны ў Арабійскай пустыні, бо прызнаюся, што ў той дзень нідзе паўтара злотага на палудзень выстраляць не ўдалося.

Вячэраючы мы доўга разважалі аб нашым руху, спамінаючы пра вясёлае ваеннае жыцьцё і пра тое навет, што павадыры „польскае арыентацыі“ ў нашым руху некаторыя ўжо якраз на Лукішках, некаторыя там пабывалі раней, а некаторым можа прыдзецца сесьці нават і пасьля „сьветльна-каляровых“ гульняў.

Я ніяк ня мог пераканаць свайго старога таварыша, што майстры гэтых гульняў маюць ў Польшчы асаблівую:

Толеранцыю!... *З.*

# Што дзеецца ў сьвеце?

## Аб нямецкіх крэпасьцях.

З Парыжа паведамляюць, што паміж конфэрэнцыяй амбасадараў а нямецкім урадам дайшло да згоды ў справе фортыфікацыяў на ўсходняй мяжы Нямецкай рэспублікі. Гэтае паразуменьне прадбача зьнішчэне фартыфікацыяў у ваколіцах Кістрына і Глогава, а таксама 22-х умацаваньняў у ваколіцы Каралёўца (Кёнігсбэрга).

На аснове ўгоды конфэрэнцыі амбасадароў з прадстаўнікамі ўраду нямецкай рэспублікі будзе абазначана мяжавая сфэра, ў якой недапушчаным будзе істнаваньне якіх небудзь фортыфікацыяў апрача тых, якія ўжо былі там у 1920 годзе.

Далей, на аснове гэнай угоды будзе ўстаноўлена сучаснае палажэньне як і спосабы консэрвацыі гэных крэпасьцяў. Конфэрэнцыя амбасадараў згаджаецца пакінуць вядомы лік

## Зіма.

Зіма сярдзітая з марозам,
З завеяй белай ўжо прышла,
Дыван прыгожанькі, сьвяжысты,
Да нас з паўночы прынясла.

З-за хмарак выпаўз ціха месяц,
За ім ўсьлед зорак каравод; —
І заблішчэлі, як брыльлянты:
На дрэвах віней, сьнег і лёд.

Сьвятло разьліў наўкола месяц:
Зрабілась відна, як удзень, —
І хаткі, шэранькія вёскі
Ў сьнягу зьявілісь, нібы сьцень!

Пануе ціша ў чорных хатках;
Супачывае народ ўвесь... —
Мароз скрыпіць, трашчыць, злуецца!...
Сабака гаўкне, часам дзесь..

Ад сну прачхнулась ўрэшце вёска,
Блiснулі ў вокнах ваганькі
І замігталі сярод ночы,
Як воўкоў вочы-вугалькі.

Затупаў ў хатах люд працоўны:
«Гадзіна шэрая» прайшла!
І заскрыпелі ў сенях дзьверы.. —
Нанова вёска аджыла!

Схапіўшы прасьніцу пад паху,
На плечы ўзьдзеўшы кажушок,
Сьпяшае дзеўча на вячоркі
Прасьці свой беленькі лянок.

Хоць твар шчыпае мароз злосна, —
Ёй на‘т ня холадна зусім!
Адна ў ёй думка: на вячорках
Яна угледзіцца з «сваім»!

Уселісь пральлі ўжо да працы,
Ўжо верацёны загулі,
І ўпоруч з ніткаю даўгою
Дзяўчаты песьню завялі.

Ў кутку ля печы лапці з лыка
Пляце старанна гаспадар, —
Для ўсёй сям‘і ён мусіць сяньня
Зрабіць назаўтра колькі пар.

Каб весялей было дзяўчаткам
Да іх хлапцы ужо прыйшлі,
Вясёлу песьню зацягнулі,
Ды байкі правіць пачалі.

Пяюць, жартуюць, весяляцца!..
Мацней гудзе верацяно!... —
Пачуўшы гоман гэткі ў хаце,
Заглянуў месячык ў вакно.

Глядзеў, дзівіўся, ды сьмяяўся... —
Аднак запелі пятухі! —

Дзяўчаты й хлопцы выйшлі з хаты,
На плечы ўзьдзеўшы кажухі.

Кожны хлапец сваю дзяўчынку
Завёў да самых хат дзьвярэй,
І на растаньні моцна кожны
Гарнуў дзяўчынку да грудзей...

Ізноў заснула ўрэшце вёска,
Пагасьлі ў вокнах ваганькі;
Ўжо ня мігтаюць сярод ночы,
Як воўкоў вочы-вугалькі.

Сьпяць ў шэрых хатках моцна,
Дзіўныя зьявы бачаць ў сьне...
Забылі клопат нуднай працы,
Ня помняць аб верацяне.

Ўжо не сьмяецца болей месяц, —
Пільнуе шчыра свой абвод,
Льле галубавае бліска ньне
На белы віней, сьнег і лёд...

Пануе ціша ў чорных хатках;
Супачывае люд увесь... —
Мароз скрыпіць, трашчыць, злуецца!..
Сабака гаўкне, часам, дзесь.

*Сяргей Пяюн.*

31 сьнежня 1926 г.

бэтановых сховаў, пабудаваных пасьля 1920 г. аднак з засьцярогай, што ўсе іншыя будуць бяссумліву зьнесены.

Урад Нямецкай рэспублікі ганарова пацьвярджае, што апрача фартыфікацыяў знайдзеных саюзьнікамі ніякія іншыя ня істнуюць, а разам з тым прыракае не будаваць новых.

### Францыя і польска-савецкі дагавор.

Газэта француская „Le Temps" у папярэднім артыкуле займаецца развапканьнем справы польска-савецкіх адносінаў. Аўтар даводзе магчымась стварэньня гаранцыйнага пакту паміж Польшчай і Расеяй і вытыкае вялікае значэньне гэтага пакту дзеля Польшчы. Бяручы пад увагу няцьвёрдае становішча Нямеччыны, Польшча магла-бы тады быць супакойнай аб сваіх межах на Ўсходзе. Але з боку Расеі дагэтуль ня можна быць пэўным у яе лёяльных адносінах да Польшчы.

### Коопэратыўны рух.

Коопэратыўны рух у паасобных дзяржавах, што раз заточвае шырэйшае кола.

На 1000 жыхараў прыпадае сяброў коопэрацыі ў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Даніі | 321 | Эстоніі | 134 |
| Вэнгрыі | 182 | Швэцыі | 119 |
| Швайцарыі | 167 | Англіі | 107 |
| Нямеччыне | 139 | Чэхаславаччыне | 105 |
| Фінляндыі | 137 | СССР | 102 |
| Латвіі | 135 | Польшчы | 95 |

На адзін коопэратыў прыпадае сярэднім лікам закупшчыкаў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Бэльгія | 8004 | Баўгарыя | 769 |
| Аўстрыя | 4040 | Швайцарыя | 679 |
| Англія | 3979 | Фінляндыя | 631 |
| Нямеччына | 3153 | Польшча | 554 |
| Францыя | 1457 | Вэнгрыя | 520 |
| Чэхаславаччына | 1355 | Голяндыя | 440 |

Абароты сяброўскіх кооператываў на аднаго сябру даходзілі ў злотых у:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Швэцыі | 1107 | Чэхаславаччыне | 288 |
| Англіі | 865 | Францыі | 275 |
| Фінляндыі | 773 | Аўстрыі | 206 |
| Швайцарыі | 749 | Польшчы | 139 |
| СССР | 348 | Нямеччыне | 137 |
| Бэльгіі | 306 | Вэнгрыі | 69 |

# НАВІНЫ.

**— Сабраньне дэлегатаў Віл. Аддз. Інстытуту.** У нядзелю, 6-га лютага а 11 гадзіне пачнецца сабраньне дэлегатаў Віленскага аддзелу Інстытуту ў кв. Інст. Завальная 6.

На парадку дня маюць быць такія справы:

1. Адчыненьне сабраньня.
2. Справаздача Ураду Віленск. Аддз.
3. Даклады дэлегатаў гурткоў.
4. Аб далейшай працы Інстытуту.
5. Вольныя прапазыцыі.
6. Перавыбары ўраду Віленскага Аддзелу.

Сабраньне мае адчыніць Старшыня ўраду Віленскага Аддзелу пас. кс. А. Станкевіч прамовай аб ролі Інстытуту ў беларускім нацыянальным адраджэньні. Пасьля, будзе выбраны старшыня і сэкрэтары. Ад імя ўраду пас. кс. Станкевіч дасьць справаздачу з дзейнасьці, далей гр. А. Більдзюкевіч, як старшыньня Цэнтральнага ўраду дасьць кароткі агляд працы ўсяго Інстытуту.

**— Зборка Віленскага Гуртка Інстытуту.** У панядзелак 7 лютага адбудзецца агульная зборка Віленскага Гуртка Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. На парадку дня будуць такія справы: 1) справаздача ўраду, 2) перавыбары ўраду і 3) бягучыя справы.

**— Пасольскі мандат п. Барана.** Як вядома, пас. Баран пасьля 3 гадоў і 7 месяцаў зьявіўся ў Сойм на паседжаньне. Не падабалася гэта эндэкам і затым падалі яны ў Сойме прапазыцыю аб няважнасьці пасольскага мандату Барана, як грамадзяніна пазбаўленага судом правоў. Гэтая прапазыцыя. адаслана ў камісію на разгляд.

**— Паседжаньне БХД.** 24.І. сёл. г. адбылося паседжаньне Цэнтральнага Камітэту Беларускай Хрысьціянскай Дэмакрацыі, на якім было адгаворана шмат прадусім арганізацыйных спраў.

**— Асобныя ўраднікі дзеля школаў нацыянальных меншасьцяў.** Віленскае кураторыюм зьвярнулася да міністэрства асьветы з просьбай аб вызначэньні яму асобных ураднікаў у справах школаў жыдоўскіх, гебрайскіх, а таксама беларускіх і літоўскіх. Гэныя ўраднікі, як знатакі меншасьцёвых языкоў на абшары дзяржавы, былі-бы экспэртамі ў справах датычачых меншасьцявага школьніцтва. Цікава, якімі школамі будуць кіраваць такія ўраднікі, бо віленскі куратар не пазволіў адчыніць ніводнай беларускай школы, ані ўрадавай, ані прыватнай.

# Да нас пішуць.

Паважаны наш пасол Ф. Ярэміч!

Стары я Беларус, жыву ўжо 47-мы год і ніколі мне ня прыходзілася чуць, каб адзін чалавек займаў дзьве службы, як гэта ёсьць пад Польшчай, дзе налічваецца тысячы безработных. Весь у Тэлеханах паштар служыць кіроўнікам пошты і разам конфідэнтам (сышчыкам). 15.І. с. г. ў мяне ў памешканьні паліцыя зрабіла труску (рэвізыю), шукалі чаго-небудзь камуністычнага, намерываючыся мяне, старога, перахрысьціць у камуністага, але нічога ў мяне не найшлі. Ну, гэта яшчэ нічога; што паліцыя рабіла труску, гэта яе абавязак, але дзіва, што паштар усюды лез і ўсё пераварачаваў, шукаючы, каб што-небудзь знайсьці і прычапіцца да мяне. Мяне ня было дома, я быў у лесе на рабоце, была толькі адна жонка з дзяцьмі, каторая моцна перапалохалася. У мяне яшчэ з 1925 г. ёсьць газэта „Krynica". Знайшоўшы гэтыя нумары, паштар абрадаваўся: „Вось бачыце, паны, ён выпісвае беларускія газэты і адрэс ягоны". Потым найшоў запросіны на сьвяткаваньне 10-х угодкаў „Biel. Krynicy": „Бачыце, паны, гэта-ж ён езьдзіў да Вільні на конфэрэнцыю".

Вось якое цяжкае наша тут жыцьцё. Я ўжо стары, нездаровы, а тут і жонку з дзяцьмі перапалохалі, цяпер і жонка нездарова. Няхай ужо без работы жывем, а тут і без здароўя асталіся. А наш паштар, які з трох бакоў мае даход, дык яшчэ яму і гэтага мала, усімі сіламі стараецца задушыць безработную і бедную сям'ю. А за што? За тое, што Беларусы.

Дык вось, браточкі, цяпер паліцыя гаворыць, што мяне адашлюць у слонімскую турму, як камуністага, бо гэтага хочыць наш паштар і панскія падлізы.

Дык калі ласка прашу сваіх прадстаўнікоў паслоў гр. Ярэміча і кс. А. Станкевіча заступіцца за мяне беднага старога Беларуса.

Чаго за царызмам ува сьне ня сьніў, дык сяго́ньня на яву, на'т сам перажываю.

*Адам Татарчук.*

*Ад Рэдакцыі:* Пасол Ярэміч зрабіў у гэтай справе інтэрвэнцыю.

### Рэформы ідуць...

(Лыскава, Ваўкавыскага пав.).

З нашага кутка мала калі зьяўляюцца весточкі ў беларускіх газэтах. Пэўна на гэта ёсьць нейкія паважныя прычыны?...

Можа дзеля таго, што наша гміна положана на самым канцы павету ды каля балота, якое злучае дзьве пушчы: Белавескую і Ружанскую; ды яшчэ можа дзеля таго, што находзіцца ў далёкай адлегласьці (бо аж за 30 вёрстаў) ад чугункі. Дзеля гэтых самых прычынаў здаецца і рэформы прыходзяць да нас, неяк таксама, позна. Я памятаю, калі ў суседняй Падароскай гміне аж „міла" бялелі каміны, пярэсьціліся стрэхі ад драбінаў і стрычэлі басакі, дык у нас яшчэ неяк аб гэтых „направах" сялянскага жыцьця нічога не чувалася. Але-ж відаць, гэтыя „рэформы" такое ліха, што нікога не паміне, бо пасьля, хоць крыху і прыпазьніўся, усё такі дакаціласяі да нас, а цераз гэта шмат хто „направіўся"...

Цяпер вось ізноў... Пад той час калі ў іншых гмінах дошчачкі з номярам і прозвішчам гаспадара пры хатах пачалі ўжо аблазіць ды іржавець (бо бляшаныя і фарбаваныя), дык у нас іх толькі што раздалі... А такія прыгожыя, мастацкія і ўсяго па 70 гр. штука!

Пішу гэта дзеля таго, каб нашае гміннае начальства, на другі раз, рухлівей і хутчэй праводзіла рэформы, а то з-за яго „нядбальства", дык прыходзіцца шмат чаго „траціць".

Пэўна шмат хто прачытаўшы назоў карэспандэнцыі падумае, што мо' запраўдныя ідуць рэформы?

Але дзе там!... запраўдных рэформаў дык навет і радыё ня прыносіць, бо школы беларускай ані воднае не адчынена, дый наагул нічога добрага ня зроблена і ня робіцца і на'т мост пры самым Лыскаве не папраўлены, па якім страшна езьдзіць, хоць падатак дарожны год у год у плацілі і плацім.

Бачыце, тое што трэба, дык ня робіцца, а розныя глупствы дык парадкуюцца!

*Скарга.*

### Асьцерагайцеся здраднікаў.

(Карэсп. з Сухаволі).

У вёсцы Дамуратах, Сакольскага павету заснавалі дамуратцы Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

Пачалася арганізацыйная праца. Але паліцыя, староства і ўрадоўцы павятовыя стараюцца застрашыць сьведамых людзей і ўжываюць да гэтага ўсіх справаў.

У нашай ваколіцы памагае ім у гэтай здрадніцкай і дурной рабоце тутэйшы чалавек з вёскі Новай Хадароўкі Адольф Клейна.

Быў ён ад 1919 да 1926 г. вучыцелям у польскай школе, хоць ня мае жаднай асьветы сам. Трымаўся 7 лет хіба толькі дзякуючы таму, што служыў праз увесь час у дэфэнзыве, як служыць і цяпер.

Бо пісаць дагэталь па польску ня ўмее, хоць вялікага Паляка з сябе корчыць.

Як толькі пранюхаў ён, што ў Дамуратах заснаваўся Гурток Б. І. Г. і К. дык зараз з даносам у староства, паліцыю а мо' і вышэй. Наехала тады ўся паліцыя з камандантам і давай страшыць людзей, але ўбачыўшы, што страхам мала зробяць, сталі намаўляць закладаць польскія арганізацыі, каталіцкія, бо ўсё беларускае нібы не каталіцкае, а бальшавіцкае, паганскае. Нічога не дабіўшыся, цэлы аддзел паліцыі пакінуў Дамураты, не дастаўшы нават „пачастунку", да якога яны вялікія ахвотнікі.

Паліцыю ў Дамураты скіраваў жыхар тутэйшы, з дзедоў і бацькоў Беларус, але прадажная скура, перакіньчык, панскі падліза — Адольф Клейна з вёскі Новай Хадароўкі.

Выгналі са школы, пайшоў тады ў сышчыкі, у шпіоны, каб губіць сваіх братоў і змагацца з беларускім рухам.

Як далёка гэны „панок" Клейна дойдзе, калісьці пабачыма. Пашкадуе яшчэ свaей здрадніцкай работы, да якой даволі тут галілейскіх прыблудаў.

Асьцерагаем усю сухавольскую парахвію і павет перад Адольфам Клейнай з Новай Хадароўкі, якому ня варта падаваць рукі і прымаць у дом.

І добра зрабіла гмінная Рада ў Сухаволі, выкінуўшы шпіка, правакатара з гміны, куды ён быў прысланы староствам. Хай ведаюць людзі, што Адольф Клейн за некалькі дзесяткаў злотых гатоў іх згубіць і ў турмы засадзіць.

Хай перасьцерагае знаёмых і суседзяў з другіх гмінаў і паветаў.

Сысчыкам не павінна быць мейсца ў нашых вёсках і мястэчках. *Хадаровец.*

# НАШАЯ ПОШТА.

**Паплаўскаму К.:** Два зл. дасталі ад Вас чатыры месяцы таму назад.

**Крыжлю Клемансу:** 4 зл. атрымалі, газэту пасылаем ад 7-га студня.

**Чаховічу І.:** Пішыце карэспандэнцыі, газэту будзем пасылаць.

**Марчуку Мік.:** Газэту спынім ад 1 сакавіка.

**Сапонько Ів.** Газэта выходзіць акуратна. Вашай карэспандэнцыі ня можам зьмясьціць, бо такія справы трэба падаваць у суд.

Пятроўскаму М., Стрызе М., Шаломскаму М., Малько П., Вярбіцкаму Б., Апанасэвічу Бр., Спачаку і іншым паданым у яго лісьце, Ракевічу Ів. — газэту пасылаем.

**Дасталі:**

Ад: Пятрунка Ів., Шымончыка — па 4 зл.

Ігнатовіча М., Шыдлоўскага П., Загіна М., Ігнатчыка А., Куліны М., Сарокі Б., Свістуна М., Жылкевіча А. — па 2 зл.

Куроўскага А., Мальковіча Н., Варонковіча М., Конона Б., Мацкевіча А., Ігнатовіча А., Скрыпы Н. — па 1 зл.

# БІРЖА.

Вільня, 3.ІІ. 1927 г.

ВАЛЮТЫ:

| | |
|---|---|
| Даляры . . . . . . . . | 8.88—8.90 зл. |
| Рублі зал. (10 р.) . . . . | 47.30—47.40 „ |

ЗБОЖЖА, ЗЕМЛЯРОБ. І ІНШ. ПРАДУКТЫ:

Вільня, 1.ІІ. 1927 г.

| | |
|---|---|
| Жыта за 100 кг. (6 пуд.) . . | 42.00—43.00 зл. |
| Авёс „ „ . . | 35.00—36.00 „ |
| Ячмень брав. „ . . | 33.00—34.00 „ |
| „ на кашу „ . . | 00.00—00.00 „ |
| Пшаніца „ . . | 50.00—51.00 „ |
| Бульба . . . . „ . . . | 0.00—0.00 „ |
| Сланіна тутэйшая І гат. 1 кг. . | 3.50—4.30 „ |
| Масла несал. за 1 кг. . . . . . | 6.00—8.00 „ |
| „ салён. . . . . . . . . | 5.00—6.00 „ |
| Яйкі за 1 дзес. . . . . . . . | 2.20—2.40 „ |

**Цана абвестак:**

на 1-ай старонцы 30 гр., 2 і 3-яй — 25 гр. і на 4-ай — 20 гр. за радок дробнага друку у вадназй палосцы. Жадаючыя іншых абвестак павінны зьвярнуцца да Адміністрацыі.

Рэдактар і выдавец К. Мацкевіч.

Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.